МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

№ 9 (161)
верасень 2015

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## У НУМАРЫ:

### БЕЛАРУСКА ПРАЦУЕ Ў МУС ЗША: "НІКОЛІ НЕ ВЕДАЕШ, ЦІ БУДУЦЬ РАЗМАЎЛЯЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ, КАЛІ ПРЫЕДЗЕШ У НАСТУПНЫ РАЗ"

Гутарка з Алесяй Кіпель.

*Чытайце на стар. 3*

### 25-ГАДОВЫ ШЛЯХ "БАЦЬКАЎШЧЫНЫ". ГУТАРКА З ЛІДЗІЯЙ САВІК

Мы пагутарылі з даследчыцай літаратуры Лідзіяй Савік, якая з'яўляецца адной з заснавальніц Згуртавання "Бацькаўшчына", і распыталі яе пра тое, як паўставала арганізацыя, папрасілі ацаніць шлях, які Згуртаванне прайшло за гэтыя 25 гадоў, а таксама пацікавіліся, ці шмат яшчэ скарбаў хаваюць літаратурныя архівы беларусаў замежжа.

*Чытайце на стар. 4*

### НАТАЛЛЯ ГАРДЗІЕНКА. "ПЕВЕЦ ВО СТАНЕ...", АБО ЯК Я ЕЗДЗІЛА НА МІЖНАРОДНУЮ КАНФЕРЭНЦЫЮ РУСІСТАЎ

"Ідэя паехаць на канферэнцыю русістаў у чэшскі горад Аламоўц узнікла нечакана з падачы сайту "славянскай эміграанталогіі", дзе анансавалася праца там эміграцыязнаўчай секцыі..."

*Чытайце на стар. 5*

### "У ЛІСТАХ ЧАЛАВЕК НЕ ХЛУСІЦЬ"

23 верасня ў мінскай кнігарні "логвінаЎ" прайшла прэзентацыя кнігі доктара Янкі Запрудніка "Па гарачых слядах мінуўшчыны: Мае лісты 1952—1959".

*Чытайце на стар. 7*

ПАДЗЕЯ

## З ЧАГО ПАЧЫНАЛАСЯ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"? ГІСТОРЫЯ З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

*Валер Герасімаў — намеснік старшыні Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" і адзін з пачынальнікаў гэтай арганізацыі — 2 кастрычніка адзначыў 60-гадовы юбілей. Амаль 40 гадоў ён працуе з рэдкай кнігай і старадрукамі ў Прэзідэнцкай (раней — Урадавай) бібліятэцы. За гэты час Валер Герасімаў напісаў каля дзвюх сотняў артыкулаў, як навуковых, так і публіцыстычных, стаў аўтарам шэрагу дапаможнікаў і мастацкіх твораў. Багатую працу ён зрабіў на ніве нацыянальнага адраджэння, і асабліва варта адзначыць даследаванні лёсу старых і слаўных беларускіх кнігазбораў, што належалі вялікім князям літоўскім і польскім каралям, Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў, К. Езавітаву, М. Доўнар-Запольскаму і інш. Пісаў дзеяч і пра беларускую ваенную гісторыю, браў удзел у даследаванні і вяртанні ў Беларусь кніжнай спадчыны беларускага замежжа, а таксама ў складзе навукова-грамадскай рады Згуртавання "Бацькаўшчына" актыўна ўдзельнічаў у арганізацыі аднаўлення вобразу крыжа Еўфрасінні Полацкай. Летась Валер Герасімаў выступіў сябрам журы прэміі імя Аляксандра і Марыі Стагановічаў за кнігу ў галіне непрыдуманай літаратуры.*

*Спадар Валер кіраваў Аргкамітэтам па падрыхтоўцы і правядзенні Першага сходу беларусаў блізкага замежжа ў 1992 годзе і актыўна ўдзельнічаў у арганізацыі ўсіх шасці з'ездаў беларусаў свету. Два юбілеі (а ў верасні 25 гадоў ад заснавання ЗБС "Бацькаўшчына") сталі добрай нагодай для грунтоўнай гутаркі з Валерам Герасімавым пра той час, калі паўставала Згуртаванне, і якое месца гэтая арганізацыя і агулам грамадская дзейнасць занялі ў яго жыцці.*

*Ніна Шыдлоўская,*
*старшыня Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*




Канец 1980-х, перабудова, Гарбачоў… Беларусь абуджаецца, Курапаты, Пазняк… Я працую ў той жа бібліятэцы, дзе і цяпер, – тады яна называлася Урадавай бібліятэкай БССР імя А.М. Горкага. Ствараю тут суполку Таварыства беларускай мовы, а чыноўнікам Дома Ураду прадаю кніжкі Міколы Ермаловіча, Уладзіміра Арлова, Андрэя Федарэнкі, Алеся Наварыча, рэпрынтныя копіі твораў Ластоўскага і Доўнар-Запольскага…

Гэта быў час, калі мы ўсе пайшлі ў палітыку, мы ўсе – навукоўцы, творчая інтэлігенцыя, простыя служачыя

➲

# З ЧАГО ПАЧЫНАЛАСЯ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"? ГІСТОРЫЯ З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

*Працяг.*
*Пачатак на першай старонцы.*

– аддаваліся гэтай справе шчыра і з грамадскай ініцыятывы пісалі пра мову, пра дзеячаў адраджэння, удзельнічалі ў першых вольных мітынгах па адзначэнні Дзядоў, супраць будаўніцтва лініі метро пад Верхнім горадам Мінска, зносу старажытных мінскіх будынкаў, спявалі разам народныя беларускія песні ("спеўкі" былі так званыя). Памятаю, Зянон Пазняк, з якім я тады пазнаёміўся, сказаў так сабе разважліва, зважаючы на грунтоўнасць маіх публікацый (адна з іх, дарэчы, была скіравана супраць ганьбавальнікаў нацыянальнай нівы ў абарону памяці дзеячаў беларускай хрысціянскай дэмакратыі Адама Станкевіча, Янкі Пазняка і іншых), што думаў недзе пра мае гадоў шэсцьдзесят (на самой справе было крыху больш за трыццаць).

Заўважыў мяне і пісьменнік Яўген Лецка, які тады заняўся беларускай дыяспарай і якому было наканавана распачаць справу стварэння Згуртавання беларусаў свету. Разам з Васілём Быкавым яны былі ініцыятарамі. Яўген Лецка быў актыўным чытачом нашай бібліятэкі. Ён да мяне прыглядзеўся і, убачыўшы, што хлопец, здаецца, нядрэнны, нацыянальна арыентаваны, вырашыў заангажаваць мяне займацца беларускай дыяспарай. Я пагадзіўся, і мы правялі арганізацыйнае пасяджэнне. Згадаю толькі некалькі імёнаў: Яўген Лецка, Арсень Ліс, Вячаслаў Рагойша, Яўген Адамовіч, Алег Бембель (Зніч), Барыс Стук, Мікола Люцко… Алена Макоўская ўжо недзе была каля нас, хоць яна была такая маладая дзяўчына, але вельмі таленавітая, пасля Інстытута замежных моваў… Крышачку пазней прыйшла Ніна Шыдлоўская. Гэта было спалучэнне мудрасці нашых апосталаў, творчай інтэлігенцыі і адначасова смелай моладзі, якая акунулася ў гэтую палітыку! Бо, забягаючы наперад, хачу сказаць, што і Алена Макоўская, і Ніна Шыдлоўская, якія цяпер узначальваюць "Бацькаўшчыну", – гэта, як на мяне, проста гераічныя жанчыны. Яны вельмі шмат зрабілі, каб "Бацькаўшчына" развівалася, яны перанялі эстафету ад Яўгена Лецкі і Ганны Сурмач, ад старэйшых пакаленняў, ад таго ж Васіля Быкава і Радзіма Гарэцкага, і годна робяць гэтую справу сёння.

"Бацькаўшчына" – арганізацыя, якая яднае беларусаў з усяго свету, усіх веравызнанняў, незалежна нават ад крыві, галоўнае – палітычнае грамадзянства і ўсведамленне сябе беларусам. Але ніколі "Бацькаўшчына" не ахвяравала прынцыпамі: нацыянальная культура, нацыянальная мова, нацыянальная сімволіка, бел-чырвона-белы сцяг і "Пагоня" – гэта тыя "слупы" нацыянальнай свядомасці, на якіх "Бацькаўшчына" трымалася заўсёды. Лічу, што і цяпер кіраўніцтва "Бацькаўшчыны" ідзе правільным шляхам.

Калі мы пачалі рыхтаваць Першы сход беларусаў блізкага замежжа, Яўген Лецка прапанаваў старшынёй аргкамітэта зрабіць мяне. Праз газету "ЛіМ" далі абвесткі са сваімі хатнімі тэлефонамі (мабільнікаў тады не было), і людзі адгукнуліся – вось адтуль ужо і пачалося такое актыўнае жыццё. Лецка з'ездзіў у Амерыку, у Аўстралію, завязаў сувязі з беларусамі далёкага замежжа. А першы сход прайшоў вельмі ўдала, ён быў "генеральнай рэпетыцыяй" Першага з'езду беларусаў свету. Мы адпрацавалі, наладзілі кантакты, узялі адрасы беларусаў замежжа, створаных імі культурніцкіх суполак. Гэта ж каштавала і нейкіх грошай – па тэлефоне пазваніць за мяжу, квіткі аплаціць, але мы рабілі ўсё на свае сродкі, на свае складкі, ніхто нас не фінансаваў. Дзяржава ніколі нам капейкі не дала, акрамя таго, дзе яна парытэтна выступала.

Першы з'езд беларусаў свету, які прайшоў крыху пазней, адбыўся на самым высокім узроўні, на парытэтных пачатках, таму што, безумоўна, мы баяліся ўплыву дзяржавы, яшчэ тагачаснай, наскрозь пранізанай кансерватыўным камуністычным духам, хоць яна з кожным днём станавілася ўсё больш нацыянальна арыентаванай. Дзяржава ўзяла на сябе функцыю візавага забеспячэння, спрыяння з гатэлямі, частку культурнай праграмы, а ўсю арганізацыйную працу выконвала "Бацькаўшчына".

"Бацькаўшчына" развівалася, прыходзілі новыя людзі, мяняліся ўмовы – на пачатку 1990-х яны былі больш спрыяльныя, чым пазней. "Бацькаўшчына" асабліва не лезла ў палітыку, бо гэта супярэчыла б яе статуту, але прынцыпамі мы не ахвяравалі.

Я думаю, што развіццё беларускай нацыі, беларускага народа – незваротнае, а неспрыяльныя дробязі на нашай дарозе адыдуць у мінулае. Я захоўваю гэты аптымізм, нейкую трываласць і веру дзякуючы "Бацькаўшчыне" і людзям, якія там працуюць і працавалі. Яны працуюць прафесійна, абганяючы ў імпэце дзяржаўныя структуры. Таму што, на жаль, сёння, як бы дзяржава ні казала, гэта больш дэкларатыўныя заявы аб падтрымцы дыяспары. Канечне, пасольствы працуюць на месцах з дыяспарай, Міністэрства культуры арганізоўвае нейкія канцэрты, нейкія касцюмы закупляе, але гэта мае крышачку паказное, а часам палітызаванае, адценне.

"Бацькаўшчына" вядзе шмат праектаў – і выдавецкія, і фестываль беларускамоўнай рэкламнай камунікацыі "Аднак!", праводзіць кампанію "Будзьма беларусамі!". Колькі гадоў таму грамадства, можа быць, і не разумела да канца значэння культурніцкіх праектаў, якія ініцыявала "Бацькаўшчына", але час паказвае, што гэтыя пачынанні сёння робяцца стрыжнем культурнай палітыкі. Мы кажам сёння пра палітычную адлігу, пашырэнне беларускасці, бачым беларускамоўныя рэкламныя шчыты на вуліцах – а ўсё гэта пачынала "Бацькаўшчына". Я думаю, чыноўнікі вучыліся на яе досведзе. "Бацькаўшчына" актыўна шукае новыя формы. Яна выжыла ў XX стагоддзі і выдатна пачала стагоддзе XXI.

*Гутарыла Алеся Башарымава,*
*прэс-сакратар*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

*Поўная версія -*
*на сайце zbsb.org*

# 1 КАСТРЫЧНІКА – "БУДЗЬМЕ!" 7 ГАДОЎ!

Шаноўныя сябры і партнёры кампаніі "Будзьма беларусамі!", чытачы і аўтары сайта, ініцыятары і ўдзельнікі праектаў! Віншуем з нашым супольным святам: 1 кастрычніка кампанія, якую заснавала і каардынуе Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", адзначыла сёмы дзень народзінаў!

Сем гадоў мы разам паляпшаем супольнае жыццё: адкрываем таямніцы беларускай гісторыі, вандруем па Беларусі ў афлайне і анлайне, узнагароджваем найлепшых беларускіх рэкламістаў, рэалізуем важныя для кожнага з нас праекты ў гарадах і мястэчках па ўсёй Беларусі, знаходзячы ўсё новых паплечнікаў, чытаем новыя кнігі і сустракаемся з іх аўтарамі, натхняемся музыкамі і мастакамі!

Разам мы ствараем сучаснае беларускае асяроддзе, у якім хочам жыць камфортна і годна, абапіраючыся на нашу вялікую гістарычную спадчыну і мову.

Віншуем усіх! Без вас, сябры, без вашай падтрымкі, крэатыўных ідэй і талентаў, у нас не атрымалася б зрабіць так шмат!

Дзякуй вам!
Будзьма і надалей разам!
Будзьма беларусамі!

*Каманда ГКК "Будзьма беларусамі!"*

# БЕЛАРУСКА ПРАЦУЕ Ў МУС ЗША: "НІКОЛІ НЕ ВЕДАЕШ, ЦІ БУДУЦЬ РАЗМАЎЛЯЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ, КАЛІ ПРЫЕДЗЕШ У НАСТУПНЫ РАЗ"



***Алеся Кіпель — дачка эмігранта, дзеяча беларускай дыяспары, даследчыка Вітаўта Кіпеля. Яна ніколі не жыла ў Беларусі, але свабодна валодае беларускай мовай, а ў амерыканскім Кангрэсе распавядае пра палітвязняў і зніклых.***

***Пра тое, ці лёгка атрымаць пасаду ў Міністэрстве ўнутраных спраў ЗША, навошта амерыканскай грамадзянцы беларуская мова і што ёй не падабаецца ў беларусах, Алеся Кіпель распавяла ў інтэрв'ю "Радыё Свабода".***

***— Алеся, Вы нарадзіліся ў ЗША і ніколі не жылі ў Беларусі. Адкуль Вы ведаеце беларускую мову?***

— Мае бацькі, дзяды з Беларусі, таму ў хаце размаўлялі па-беларуску. У ЗША тады было некалькі беларускіх асяродкаў, дзе ў школках можна было вывучаць беларускую мову. Я наведвала такую школку ў беларускай царкве ў Брукліне ў Нью-Ёрку. Нас прыходзіла недзе ад 10 да 20 дзяцей, мы вывучалі беларускую гісторыю, граматыку, развучвалі вершы, песні. Ужо студэнткай я пераехала ў Вашынгтон. Сюды пачалі прыязджаць многія беларусы, я пазнаёмілася з Ірынай Красоўскай, мы размаўляем паміж сабой па-беларуску. Таму беларуская мова такой вось ніткай праходзіць праз маё жыццё.

***— Калі Вы першы раз трапілі ў Беларусь?***

— У 1990 годзе. Я і іншая моладзь займаліся ў танцавальным гуртку "Васілёк", які вяла таксама імігрантка Ала Орса-Рамана. Мы выступалі на Беласточчыне, пазней нас запрасілі ў Беларусь. Яшчэ быў Савецкі Саюз, але межы сталі больш адкрытыя. Памятаю, пасля выступу ў Беларусі мы мусілі паехаць у Вільню, дык трэба было прасіць дазволу ў Гарбачова, каб праз мяжу пераехаць. Вядома, дазвол мы тады атрымалі, бо гэта ж амерыканцы прыехалі!

***— Бацькі Вам шмат распавядалі пра Беларусь, таму, відаць, нейкае ўяўленне пра краіну Вы ўжо мелі. Якія ўражанні ў Вас былі, калі прыехалі?***

— Мінск быў значна прыгажэйшы, чым я сабе ўяўляла. Я апынулася ў Беларусі, калі мне было ўжо больш за трыццаць гадоў, дык я штосьці ўжо ведала пра краіну. Ва ўніверсітэце я вывучала савецкую палітыку, эканоміку, таму ўяўляла сабе, што ўсё там такое шэрае. А ўбачыла вельмі прыгожую краіну, прыгожую прыроду. Тады ўсе гэтыя беларускія вершы, якія я вучыла, сталі зразумелыя.

***— Вы старшыня Беларуска-Амерыканскага Задзіночання ў Вашынгтоне. Чым Вы займаецеся?***

— У Вашынгтоне БАЗА займаецца палітычнымі справамі. Гэта і таму, што сталіца, і таму, што ўсе сябры нашай арганізацыі зацікаўленыя ў гэтым. Ходзім у амерыканскі Кангрэс, у Дзяржддэпартамент, арганізуем акцыі, нагадваем пра правы чалавека, зніклых. Збіраемся выдаць новы альбом пра жыццё беларускай дыяспары, бо папярэдні з'явіўся пяць гадоў таму. Сур'ёзныя кнігі не маем магчымасці выдаваць, бо не маем столькі часу і фінансаў. У нас складкі па $35 на год, з гэтага і фінансуем дзейнасць. Вось вырабілі значкі з бел-чырвона-белым і амерыканскім сцягамі. Два гады таму рабілі паказ фільма "Беларуская мара" і дыскусію тут, у Вашынгтоне. Большая частка наведнікаў былі амерыканцы. Таксама ў Вашынгтоне ёсць Central and East European Coalition, якая складаецца з беларусаў, украінцаў, літоўцаў, славакаў — усяго 18 такіх нацыянальных групаў. Разам ходзім па офісах у Кангрэсе і тлумачым, што адбываецца ва Украіне, у Беларусі, Расіі.

***— Як часта Вы цяпер наведваеце Беларусь? Якія змены заўважаеце?***

— Апошні раз была два гады таму назад на Шостым з'ездзе беларусаў свету з дакладам. Акурат былі Дзяды, я пайшла з кузынкай на могілкі ў Мінску. Іду па адной сцежцы — тут Вінцук Вячорка, там хтосьці яшчэ. Мая кузынка здзівілася: "Ты ў Мінску не жыла, а ўсіх ведаеш!"

Ніколі не ведаеш, ці будуць размаўляць па-беларуску, калі прыедзеш у наступны раз. У першыя гады атрымання незалежнасці было чуваць больш беларускай мовы. Але цяпер сітуацыя крыху паляпшаецца — з'яўляецца больш гэтай беларускасці. Краіна таксама стала больш еўрапейская.

***— Вы — амерыканка, маеце амерыканскае грамадзянства і наўрад ці плануеце пераязджаць у Беларусь. Навошта Вам беларуская мова?***

— Бо гэта наша родная мова. А мова — гэта частка ідэнтычнасці народа. Беларуская мова старая, вельмі багатая. Наша гісторыя таксама багатая, яна іншая, чым у балтыйскіх народаў, палякаў, украінцаў, расійцаў. Мы маем сваё — і варта гэтым ганарыцца. Што нас яднае ў Амерыцы? Англійская мова. Без яе тут цяжка чагосьці дасягнуць, паступіць ва ўніверсітэт, знайсці добрую працу, ісці наперад. І гэтаксама ў іншых краінах.

***— Ці ёсць у амерыканцаў стэрэатып наконт беларусаў?***

— Амерыканцы надта многа пра Беларусь не ведаюць. Але беларусы самі ствараюць такі стэрэатып, што цягам стольких гадоў праз Беларусь усялякія войскі праходзілі, столькі было ўсяго, што беларусы будуць цярпець, цярпець, але ўсё вытрымаюць. І што беларусы вельмі спакойныя, таму ніякай вайны ў нас не будзе.

***— Што Вам не падабаецца ў беларусах?***

— Што мы не найлепшыя, што нехта лепшы за нас. Што я не на першай прыступцы стаю, а на другой. Здаецца, у нас такая ментальнасць, што іншы — лепшы за нас. Калі б мы больш разумелі ўласную вартасць, мяркую, Лукашэнка б не быў столькі гадоў на сваёй пасадзе.

*Паводле "Радыё Свабода"*

## 25-ГАДОВЫ ШЛЯХ "БАЦЬКАЎШЧЫНЫ". ГУТАРКА З ЛІДЗІЯЙ САВІК

*Сёлета Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" святкуе немалы юбілей – 25-годдзе. 10 верасня 1990 года адбыўся ўстаноўчы сход, на якім было прынятае рашэнне пра стварэнне арганізацыі, якая б злучыла ў адну супольнасць беларусаў замежжа і беларусаў, што жывуць на Радзіме. Пачатак 1990-х звязваюць з нацыянальным пад'ёмам, новымі надзеямі, адраджэннем. Настроі гэтага часу і сёння жывыя ў памяці тых, хто актыўна ўдзельнічаў у тагачасных падзеях.*

*Мы пагутарылі з даследчыцай літаратуры Лідзіяй Савік, якая з'яўляецца адной з заснавальніц Згуртавання "Бацькаўшчына", і распыталі яе пра тое, як паўставала арганізацыя, папрасілі ацаніць шлях, які Згуртаванне прайшло за гэтыя 25 гадоў, а таксама пацікавіліся, ці шмат яшчэ скарбаў хаваюць літаратурныя архівы беларусаў замежжа.*

**Вы адна са стваральніц і актыўны сябра Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". Раскажыце, якія ў Вас былі думкі і пачуцці, калі паўставала гэтая арганізацыя?**

"Бацькаўшчына" паўставала, калі былі 1990-я гады. Пачала распаўсюджвацца беларуская нацыянальная ідэя, зноў усім нам захацелася да сваіх каранёў, да сваёй мовы, гісторыі, культуры. І таксама стала вядома, што вельмі многа нашых беларусаў жыве за межамі – называлася лічба каля трох мільёнаў. Мы ведалі, што вялікая дыяспара ёсць у Амерыцы, у Англіі, у Канадзе, у Аўстраліі, у еўрапейскіх краінах. Таму ўзнікла ідэя гэтай арганізацыі, каб даследаваць, аб'яднаць, вярнуць на Бацькаўшчыну ўсё тое каштоўнае, што там створана, вярнуць імёны тых беларусаў у нашыя энцыклапедыі. Там жа былі і мастакі, і спевакі – выдатныя людзі: той жа Пётра Конюх ці Забэйда-Суміцкі. А якія ў нас былі выдатныя ўрачы! Той жа Шчорс, Марыя Дзямковіч, Мітрафан Рэпкаў-Смаршчок. Былі і вучоныя, і людзі самых розных спецыяльнасцяў… І тады сярод нашай інтэлігенцыі, па газетах, часопісах мы пачалі расшукваць адрасы нашых суайчыннікаў. Шмат работы прарабілі, наладзілі сувязь з замежжам, ездзілі знаёміцца з беларусамі ў іншыя краіны. Тады ўсё ішло ў рукі і былі магчымасці: мяне, шараговага супрацоўніка, у Амерыку адправілі і нават дарогу аплацілі!

У мяне назбіраўся вялікі архіў, багатая перапіска з беларусамі замежжа, шмат фотаздымкаў. Я многіх ведала, з Наталляй Арсенневай па тэлефоне размаўляла, мяне вазіў па Амерыцы Янка Запруднік, я была ў бібліятэцы БІНіМа… Гэта ж усё ўпершыню адкрывалі, усё было так цікава! Пра гэта хацелася пісаць, і я вельмі шмат артыкулаў апублікавала пра замежжа.

Мы правялі ўстаноўчы сход у Саюзе пісьменнікаў, мяне тады выбралі першым сакратаром Управы, я вяла ўсе дакументы. А як зарэгістраваліся, пачалі рыхтаваць Першы з'езд беларусаў свету.

Гэта была такая эйфарыя! Мы дзень і ноч працавалі. У замежжы беларусы памяталі Бацькаўшчыну, мову памяталі, выдавалі творы – гэта вельмі нас прываблівала. Божа, колькі людзей прыехала! Мы ездзілі іх сустракаць, а яны сыходзілі з самалётаў, падалі на калені… Мы адчувалі, што мы, беларусы, значная нацыя, не горшая за іншыя. Тады ўздым быў, людзі загаварылі па-беларуску, столькі падзей было!

Пра з'езд быў вялікі розгалас, і не толькі ў Беларусі, бо сюды амаль з усяго свету людзі прыехалі. Дзякуючы нашым эмігрантам свет даведаўся, што ёсць такая краіна – Беларусь.

**Як Вы ацанілі б шлях, які ўжо прайшло Згуртаванне "Бацькаўшчына"?**

Вельмі добра, што была створаная такая арганізацыя, якая вельмі шмат зрабіла для беларускай справы. Не дае згаснуць гэтай беларускай свечачцы, дагарэць да палічкі і знікнуць зусім. Хоць нешта мы робім. Нават гэтыя з'езды – яны ж таксама вялікае значэнне маюць. Я іншы раз думаю: як нашыя дзяўчаты там спраўляюцца? Гэта ж вялікія высілкі! Але слава Богу, што яна існуе, і хай бы і далей яшчэ існавала.

Канечне, на з'езды прыязджае ўжо не столькі людзей, як на першы – той быў самы значны, самы вялікі, падзея была: тады ж яшчэ і ўрад прычыніўся, і газеты, і часопісы шмат пісалі. Але я лічу, што вельмі правільная пазіцыя была, калі мы стварылі гэтую арганізацыю, – захаваць беларушчыну, захаваць нашую нацыю, культуру, гісторыю. Вялікая падзея ў тым, што беларуская эміграцыя прыхінулася, прыехала, вярнулася на Бацькаўшчыну – усё ж гэта дзякуючы нашай арганізацыі. Я лічу, што Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" – вельмі вялікае дасягненне беларускай нацыянальнай ідэі. А што такое нацыянальная ідэя? Гэта патрыятызм, захаванне сваёй мовы, сваёй культуры, гісторыі. І дзякаваць Богу, што "Бацькаўшчына" ўсё-ткі існуе, нягледзячы на такія нялёгкія апошнія 20 гадоў умовы, і нешта робіць, і нейкія сувязі падтрымлівае, і хоць трошачкі нешта выдае з кніг. Я лічу, што "Бацькаўшчына" – адна з самых уплывовых і значных нашых арганізацый па ажыццяўленні беларускай нацыянальнай ідэі.

*Друкуецца ў скароце.*
*Цалкам чытайце на сайце zbsb.org*

## ХВЕДАР НЮНЬКА – ДА 25-ГОДДЗЯ ЗГУРТАВАННЯ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

Віншую з 25-годдзем Устаноўчага сходу, які здзейсніў утварэнне "Бацькаўшчыны"!

Таварыства беларускай культуры ў Літве ўжо існавала амаль два гады, ладзіла сустрэчы з беларусамі ў школах, на прадпрыемствах, чытала лекцыі па беларускай гісторыі, звязанай з Вільняй, арганізоўвала сустрэчы з прадстаўнікамі культуры і гісторыі з Беларусі, працавала над выпускам газеты і перадачамі на радыё і тэлебачанні. Апрача старшыні актыўна дапамагалі ў працы беларускія патрыёты Лявон Луцкевіч, Леванід Кароль, Алег Аблажэй, Аляксей Анішчык, Ніна Брылеўская, Крыстына Балаховіч, Леакадыя Мілаш і інш.

Канечне, заўсёды на сустрэчах абмяркоўвалі пытанне культурнага і палітычнага адраджэння ў самой Беларусі. Лічылі, што трэба арганізаваць з'езд беларусаў усяго свету, якіх вайна раскідала па ўсіх кантынентах. Трэба стварыць арганізацыю, якая займалася б наладжваннем кантактаў. Менавіта такой арганізацыяй стала Згуртаванне беларусаў свету.

Я асабіста няшмат мог дапамагчы ў 1992 г., бо для вырашэння важных пытанняў у Беларусі ў той час хапала адданых і дзелавых патрыётаў, здольных паслужыць нашай Радзіме, а гэта Васіль Быкаў, Радзім Гарэцкі, Ганна Сурмач, Зянон Пазняк, Алег Трусаў, Яўген Лецка і шмат іншых. Магу ганарыцца толькі, што я актыўна далучыўся да беларускага руху яшчэ ў цяжкія 1942–1943 гады, таму кожны крок і падзея ў Беларусі была і ёсць блізкімі майму сэрцу і балюча, калі там творыцца не тое, што трэба.

ЗБС "Бацькаўшчына" не мае такіх умоў і падтрымкі з боку ўладаў, якую маюць Літва і іншыя краіны Балтыі. Аднак і ў гэтых умовах кіраўніцтва "Бацькаўшчыны" выконвае вялікую і такую патрэбную працу па наладжванні кантактаў, выпуску і забяспечанні замежных беларусаў літаратурай і сувенірамі, а па магчымасці і дапамогаю ў вырашэнні арганізацыйных пытанняў, арганізацыі з'ездаў і канферэнцый беларусаў.

Успамінаю, што прапанову ладзіць канферэнцыі беларусаў Балтыйскага рэгіёна і Беларусі падала і памагла ажыццявіць Ганна Сурмач, у выніку ТБК Літвы паспяхова правяло пяць міжнародных канферэнцый.

З улікам сітуацыі ў Беларусі Згуртаваннем зроблена вельмі шмат для актывізацыі дзейнасці замежных беларусаў. На будучыню пажадаю кіраўніцтву і далей працаваць супраць русіфікацыі ў Беларусі і супраць асіміляцыі беларусаў за мяжою.

*Паводле Хведара Нюнькі*

# НАТАЛЛЯ ГАРДЗІЕНКА. "ПЕВЕЦ ВО СТАНЕ...", АБО ЯК Я ЕЗДЗІЛА НА МІЖНАРОДНУЮ КАНФЕРЭНЦЫЮ РУСІСТАЎ

Ідэя паехаць на канферэнцыю русістаў у чэшскі горад Аламоўц узнікла нечакана з падачы сайту "славянскай эмігранталогіі", дзе анансавалася праца там эміграцыязнаўчай секцыі.

Выканаўшы ўсе неабходныя працэдуры па рэгістрацыі і атрымаўшы ад ЗБС "Бацькаўшчына" падтрымку для гэтай паездкі, я выправілася ў той невядомы мне дагэтуль Аламоўц праз больш знаёмую Прагу.

Аламоўц – прыгожы, ціхі, утульны гарадок. З сотні тысячаў насельніцтва чвэрць складаюць студэнты. Так што гэта класічны стары ўніверсітэцкі горад.



Як выявілася, Міжнародныя дні русістаў тут адбываюцца штодвагады ад 1976 года, і сёлета былі ўжо 23-я па ліку. У канферэнцыі бралі ўдзел каля сотні даследчыкаў рускай мовы і літаратуры з розных краінаў свету.

Сёлета на днях русістаў арганізавалі пяць секцый. "Літаратура рускай эміграцыі", куды трапіла я, аказалася самай вялікай секцыяй з усіх (на ёй было запланавана 34 удзельнікі).

Мае для сябе самой сфармуляваныя задачы на гэтую канферэнцыю выглядалі недзе так: па-першае, расказаць пра тое, што ўяўляе сабою айчыннае эміграцыязнаўства, акрэсліць асноўныя яго адметнасці і праблемы з тым, каб завязаць кантакты з асобамі, якім могуць быць цікавыя нашыя тэмы і праблемы; па-другое, зразумець, што ўяўляе сабою расійскае эміграцыязнаўства, якія тэмы, праблемы, якімі метадамі вывучаюцца, каб суаднесці гэта з нашымі справамі.

З першай задачай я справілася даволі паспяхова. Даклад, які суправаджаўся прэзентацыяй пэўнай статыстыкі і схемаў, я выклала без паперкі, на добрым куражы. І хоць усё задуманае ў 15 хвілінаў не ўвайшло, аднак гучала даволі жыва і выклікала найбольш з усіх папярэдніх (я выступала чацвертаю) пытанняў і рэфлексіяў. Пытанні былі даволі розныя. Калега з Чэхіі Іва Поспішыл, прыкладам, не зусім зразумеў, што такое дзяржаўныя і недзяржаўныя выдавецтвы, пра якія я згадвала, прыводзячы звесткі пра выданне кніг эміграцыйнай тэматыцы. У Чэхіі няма выдавецтваў, якія фінансуюцца пераважна дзяржаваю. Той самы калега пытаўся пра стаўленне дзяржавы да Ларысы Геніюш, пра віленскія беларускія выданні, з якімі ён сутыкаўся пры канцы 1980-х, пра перспектывы працэсу аб'яднання беларускай нацыі ў сувязі з праблемай мовы (я тлумачыла ў дакладзе адзін з аспектаў праблем публікацыі эміграцыйных тэкстаў, звязаны з іх правапісам).

Іншы калега, прафесар Браніслаў Кодзіс з Польшчы, пытаўся наконт таго, як наогул успрымаецца паняцце "эміграцыязнаўства" ў Беларусі і як нам удаецца працаваць ва ўмовах насцярожанага ўспрымання тэмы эміграцыі афіцыйнымі структурамі і дзяржаўнымі, і навуковымі. Я казала пра грамадскія ініцыятывы і чыннікі. Былі і пытанні пра канкрэтных асобаў, што займаюцца эміграцыяй, а таксама пра "эміграцыю" ў свой час Васіля Быкава, яе матывы. Таксама выклікаў цікавасць наш дыск з "Беларускімі эміграцыйнымі калекцыямі", які я прэзентавала калегам.

Выкананне другой задачы расцягнулася на два дні канферэнцыі. Мой даклад на фоне ўсёй руска-літаратурна-эмігранцкай тэматыкі, безумоўна, вылучаўся. Аднак асноўны ракурс секцыі ўсё ж быў якраз той руска-эміграцыйны.

Тыя ці іншыя выступы ў мяне выклікалі ўласныя беларускія рэфлексіі. Прыкладам, згадвалі пра жаданне таго ці іншага эмігранта быць пахаваным на радзіме, а я задумалася ў сваім тэксце пра могілкі, які цяпер рыхтую, таксама адзначыць такі аспект у дачыненні да некаторых беларускіх творцаў. Прыкладам, Уладзіміра Случанскага.

У некалькіх дакладах гучала пра дачыненне розных пакаленняў літаратараў рускай эміграцыі. Падумалася, што ў нас праблемы літаратурных дачыненняў розных пакаленняў, бадай, няма, але ў прынцыпе складанасці ў стасунках розных пакаленняў эміграцыі, як і розных хваляў, на сёння ў нас амаль не закраналася. А можа быць цікава.

Апошні даклад у першы дзень быў пра Тэрапіяна як летапісца рускай эміграцыі. Як пачула вызначэнне пра "летапісца", згадала пра Міколу Панькова з яго "Хронікай беларускага жыцця на чужыне". Цікава, ці можна суадносіць гэтыя постаці.

Слухаючы даклады, мімаволі злавіла сябе на тым, што вельмі хацела б апынуцца на аналагічнай канферэнцыі, дзе б гэтаксама шырока і разнастайна разглядалася б беларуская эміграцыйная літаратура. І не проста праз апісальныя хваласпевы ды вялікія цытаты, а з рознымі канцэптуальнымі падыходамі, з параўнаннямі эмігранцкіх твораў з метрапольнымі, без міфалагізацыі ці ідэалагізацыі.

Прафесар Здэнэк Пехал, арганізатар канферэнцыі, кіраўнік кафедры славістыкі мясцовага ўніверсітэта, у дакладзе закрануў быў тэму "свайго" і "чужога" ў эміграцыйнай літаратуры на прыкладзе Набокава. Цікавае разуменне рускімі эмігрантамі, што дом – гэта не там, дзе я, а там, дзе пачуваюся абароненым, пераважна, у Расіі. Таму ў літаратуры праходзіць разуменне і адчуванне "адсутнасці дома". Цікава, каб нехта прааналізаваў беларускіх эміграцыйных аўтараў наконт іх разумення дома і паняцця сваіх – чужых. Здаецца, усё можа быць зусім не адназначна.

Агулам магу сказаць, што ні разу не пашкадавала пра тое, што выбралася-такі ў гэтую паездку. Для даследчыка ўсё ж сапраўды важна час ад часу мець магчымасць апынуцца ў іншым свеце, параўнаць тое, што робіш ты, з тым, што робяць іншыя. Гэта дае не толькі новыя кантакты, але скіроўвае на нейкія новыя магчымыя ракурсы, тэмы, што таксама важна.

*Паводле Наталлі Гардзіенка*

*Цалкам матэрыял чытайце на zbsb.org*

# МІХАСЬ КАЗЛОЎСКІ І СЯРГЕЙ ПАНІЗНІК ВЫДАЛІ КНІГУ ТВОРАЎ БЕЛАРУСАЎ У ЛАТВІІ – ВОЛЬГІ І СЯРГЕЯ САХАРАВЫХ

Вольга Сахарава
Сяргей Сахараў
ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ

"А што, Латвія ўваходзіла ў склад Заходняй Беларусі?" – з такім непаразуменнем сутыкнуўся краязнаўца і пісьменнік Міхась Казлоўскі, калі распавядаў, што рыхтуе кнігу пра рупліўцаў беларушчыны ў міжваенны перыяд на латвійскай зямлі.

Гэта толькі яшчэ больш упэўніла ў тым, што неабходна не толькі апублікаваць працы Вольгі і Сяргея Сахаравых, але і падрабязна апісаць краіну і час, у якіх яны працавалі.

Ідэя стварыць том, прысвечаны сямейнай пары Сахаравых, належыць паэту і журналісту Сяргею Панізніку. Ён даўно хацеў выдаць кнігу і звярнуўся да Міхася Казлоўскага па дапамогу.

Панізнік лічыць іх знакавымі асобамі ў беларускім культурна-асветным руху міжваеннай Латвіі. Такіх постацяў вылучаюць дзве – Кастусь Езавітаў і Сяргей Сахараў. Казлоўскі жартам называе іх беларуска-латышскімі Кірылам і Мяфодзіем.

Панізнік захапіўся Сахаравымі з 1970-х гадоў. Многія беларусы Латвіі дзяліліся матэрыяламі. У тым ліку дачка Ірына Вількель-Сахарава і ўнучка Нона Ахметулаева, якая цяпер жыве ў Рызе. Дзякуючы архіву кніга аздобленая сямейнымі фотаздымкамі, выявай рукапісу, вокладкамі тагачасных выданняў.

### *Як беларусаў паменела на 37 тысяч*

У прадмове Міхась Казлоўскі імкнуўся акрэсліць кантэкст дзейнасці Сахаравых, гістарычны фон, на якім ім давялося жыць і працаваць. Вольга і Сяргей пабраліся шлюбам у 1905 годзе. Першую сусветную перажылі ў Юр'еўскім (Тартускім) павеце.

Пасля Люцынская гарадская рада запрасіла Сяргея Сахарава на пасаду дырэктара мясцовай гімназіі. У той час у сям'і ўжо былі дочкі Галіна і Ірына. Пасля прызначылі кіраўніком Беларускага аддзела пры Міністэрстве асветы Латвіі. Тут яны апынуліся ў эпіцэнтры змагання за беларускую справу і сталі яе часткай.

А ў 1925 годзе адбыўся суд над васьмю беларускімі настаўнікамі, якіх абвінавацілі "ў злачынным таварыстве ў Латгаліі, якое ставіць мэтай адарваць ад Латвійскай дзяржавы тэрыторыю Дзвінскага, Рэжыцкага, Люцынскага і часткова Ілукштанскага паветаў і далучыць іх да Беларускай дзяржавы". Вынікам такой агрэсіі да праяў беларушчыны сталі лічбы Уселатвійскага перапісу насельніцтва.

Калі ў 1920 годзе беларусамі сябе назвалі 75 650 чалавек, то ўжо ў 1925 годзе – 38 010.

Такое памяншэнне невыпадковае на беларускіх этнічных землях, якія да рэвалюцыі ўваходзілі ў склад Віцебскай губерні, а да Латвіі далучаныя ў 1920 годзе са згоды Леніна.

### *Дух часу і подых эпохі*

Пры гэтым Сахаравы былі не толькі педагогамі, пра якіх са шчырай падзякай узгадвалі вучні. Сяргей Сахараў збіраў этнаграфічныя матэрыялы, займаўся публіцыстыкай. Яго жонка пісала вершы і драматургічныя творы.

Вершы Вольгі з тэхнічнага пункту гледжання не вельмі дасканалыя, але гэты іх недахоп кампенсуецца шчырасцю, у іх адчуваецца дух часу і подых эпохі, заўважае укладальнік. А стаўленне да драматургіі ў яго праходзіла своеасаблівую эвалюцыю. Прачытаўшы іх гадоў з 10–15 таму, спачатку паставіўся да твораў даволі крытычна. А прачытаўшы другі раз, заўважыў шмат вартага і для друкавання, і для абмеркавання.

"Здавалася б, п'есы не адзначаюцца драматургічнымі знаходкамі, яркімі персанажамі, але яны дораць неверагоднае адчуванне сонечнасці і святла, – гаворыць Міхась Казлоўскі. – Часам творы варта перачытваць, бо самае галоўнае пасля першага прачытання я не заўважыў. Ці знойдзецца драматург, які надасць ім другое жыццё?"

Асаблівую каштоўнасць укладальнік бачыць у працы "Народная творчасць латгальскіх і ілукстэнскіх беларусаў", для якой Сяргей Сахараў не толькі сабраў этнаграфічны матэрыял, але і памайстэрску апрацаваў.

Краязнаўца адзначае, што Сяргей Сахараў спалучае выдатныя якасці грамадзяніна і асобы, творцы і знакавай постаці. Гэта адлюстроўвае блок успамінаў пра яго і яго жонку.

Як і многіх дзеячаў беларускага адраджэння, Сахарава напаткаў трагічны лёс. Дачка Галіна загінула, прыёмны сын прапаў, жонка пайшла з жыцця раней за час. А ў 65 гадоў чакала пяцігадовая ссылка.

"Мы не павінны забывацца, што адбывалася ў трагічны і велічны міжваенны перыяд, – падкрэслівае краязнаўца. – Былі беларускія арганізацыі ў Чэхаславакіі, ЗША, Францыі. Згадкі пра іх робяць нас нашмат багацейшымі. Даюць прыклад, як трэба працаваць, не звяртаючы на сітуацыю, час і неспрыяльнасць".

*Паводле "Рэгіянальнай газеты"*

ВІНШАВАННІ

# ВІНШАВАННЕ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў кастрычніку: **Антона Астаповіча, Сяргея Харэўскага, Алега Якшэвіча** (Беларусь), **Міколу Пачкаева** (Англія), **Валера Казакова** (Расія).

Няхай спраўдзяцца вашыя мары, і ўсе вашыя творчыя ідэі ўвасобяцца ў жыццё і прынясуць плён! Моцы вам, здароўя і дабрабыту!

У кастрычніку 60-годдзе адзначаюць два сябры Рады Згуртавання. 2 кастрычніка юбілей святкуе **Валер Герасімаў** (Беларусь), а 5-га – **Уладзімір Астапук** (Расія). **Вольга Галанава** з расійскага Іркуцка 20 кастрычніка сустрэне 30-годдзе.

Мы радыя павіншаваць юбіляраў з гэтымі цудоўнымі датамі. Зычым вам імпэту і стваральнай энергіі, выдатнага здароўя, жыццёвай радасці і пазітыву!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*



# "У ЛІСТАХ ЧАЛАВЕК НЕ ХЛУСІЦЬ"

23 верасня ў мінскай кнігарні "логвінаЎ" прайшла прэзентацыя кнігі доктара Янкі Запрудніка "Па гарачых слядах мінуўшчыны: Мае лісты 1952—1959". Пра тое, як рыхтавалася кніга, расказалі рэдактар Валянціна Трыгубовіч, даследчыца Наталля Гардзіенка, дырэктар выдавецтва "Лімарыус" Марына Шыбко і намеснік старшыні Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" Валер Герасімаў.

Распачалі імпрэзу са звароту доктара Янкі Запрудніка, які зачытала Наталля Гардзіенка.

Валянціна Трыгубовіч расказала пра адметнасць новай кнігі: "Я лічу, што важнасць менавіта такіх кніг – збораў лістоў – заключаецца ў тым, што ў лістах чалавек не хлусіць. Бо ліст ты пішаш сябру, які і так усё пра цябе ведае. Ты перад ім не спрабуеш здавацца лепшым. Бо калі чалавек піша ўспаміны, мемуары – ужо пачынае працаваць самарэдагаванне".

На пытанне пра змест лістоў спадарыня Валянціна падкрэсліла: "Янка Запруднік – чалавек справы. З маладых гадоў ён разумеў гістарычную значнасць лістоў як пісьмовых крыніц і друкаваў усе свае лісты адразу з капіркай. Ён расказваў, што падчас пераезду з Еўропы ў Амерыку яму давялося перавозіць 400 кілаграмаў такіх гістарычна значных для нас сёння папер!

Тут, у кнізе, цвярозае, рэальнае жыццё. Ніякага кахання і летуценных развагаў, як гэта часта бывае ў маладых людзей. Доктар Янка Запруднік пісаў вершы ў маладыя гады. Вось там усё каханне! Дарэчы, варта было б выдаць іх зборнік! Але пакуль што доктар заняты падрыхтоўкай наступнай сваёй кнігі – лістоў ужо ДА яго".

"Вельмі хацелася б пажадаць спадару Янку Запрудніку доўгіх гадоў жыцця. І каб на гэтай кнізе збор ягоных лістоў не




скончыўся і разам мы выдалі яшчэ не адзін адметны том", – павіншавала ўсіх з выхадам кнігі дырэктар выдавецтва "Лімарыюс" Марына Шыбко.

Намеснік старшыні Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" Валер Герасімаў падзяліўся сваім уражаннем ад кнігі: "Кніга Янкі Запрудніка ўжо 26-ая ў серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны". Гэта вялікі плюс для такой арганізацыі. Таму што, як можна пагадзіцца са спадаром Янкам Запруднікам, трэба рабіць справу! І Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", якое паўстала 25 гадоў таму, робіць канкрэтную справу – 26 кніг беларускай дыяспары, плюс тры кнігі ў падсерыі "Людзі Беларусі" – гэта правільна, гэта тое, што застанецца ў гісторыі!"

Пра сустрэчу і супрацу з доктарам Янкам Запруднікам распавяла дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганна Запартыка:

"Калі ў 1997 годзе Янка Запруднік прыязджаў у Мінск на З'езд беларусаў свету, па маім запрашэнні ён завітаў у наш архіў, пазнаёміўся з супрацоўнікамі і фондамі і стрымана сказаў адно слова: "Парадак". І для нас гэтае слова вельмі шмат значыла. А праз некаторы час да нас з Амерыкі прыйшла першая скрыня ад Запрудніка, потым яшчэ і яшчэ. З Фонду Янкі Запрудніка можна яскрава ўбачыць, што цікавіла беларусаў у эміграцыі пра радзіму".

Напрыканцы імпрэзы з музычным віншаваннем – кранальным "Паланезам Агінскага" – выступіла бард Таццяна Матафонава.

*Паводле прэс-службы ГКК "Будзьма беларусамі!"*

# У МАСКВЕ АДКРЫЛАСЯ ВЫСТАВА, ПРЫСВЕЧАНАЯ ЯНКУ КУПАЛУ




"Я шлях, якому век няма спакою..." – урачыстае адкрыццё выставы пад такой назвай адбылося 17 верасня 2015 года ў Дзелавым і культурным комплексе Пасольства Беларусі ў Расіі. Госці пазнаёміліся з экспанатамі з фондаў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы, прысвечанымі асобе, жыццю і творчасці народнага паэта Беларусі ў гады Першай сусветнай вайны (1914–1918 гг.).

Падчас урачыстага адкрыцця былі прадстаўленыя дзве экспазіцыі: выстава "Завуся я толькі Янка Купала", прымеркаваная да 110-годдзя пачатку творчай дзейнасці паэта, і выстава "Янка Купала ў кніжнай графіцы", у якую ўвайшлі работы ў тэхніцы афорта, лінагравюры і літаграфіі вядомых беларускіх графікаў розных пакаленняў Арлена Кашкурэвіча, Георгія Паплаўскага, Васіля Шаранговіча, Міхаіла Басалыгі, Віктара Аляксандровіча.

Гасцямі выставы сталі кіраўнікі Дзяржаўнага літаратурнага музея Расіі Дзмітрый Бак, Дзяржаўнага музея А.С. Пушкіна Яўген Багатыроў, Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі Віктар Фёдараў, член праўлення Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі Іван Сабіла, старшыня Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі "Беларусы Расіі" Сяргей Кандыбовіч, а таксама прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі, навукоўцы, мастац-твазнаўцы, беларуская дыяспара.

Дзмітрый Бак адзначыў веліч і маштаб беларускага паэта, якія раскрываюцца ў яго вершах. Кіраўнік расійскага музея распавёў аб падпісанні пагаднення аб супрацоўніцтве з літаратурным музеем беларускага паэта ў Мінску.

Яркім дадаткам урачыстага адкрыцця стала акцыя "Чытаем Купалу разам". Творы беларускага паэта прагучалі на розных мовах свету ў прачытанні акрэдытаваных у Маскве дыпламатаў з Венесуэлы, Казахстана, Кубы, Сербіі, Туркменістана.

Мерапрыемства суправаджалася таксама выступам хору Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі імя П.І. Чайкоўскага і ансамбля цымбалістаў "Лілея" Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі.

*Паводле embassybel.ru*

## ПРАТЭСТ НА ЗАБАРОНУ ЎЕЗДУ АЙЦА СВЯТАСЛАВА ЛОГІНА Ў БЕЛАРУСЬ

На імя кіраўніцтва Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" 29 верасня прыйшоў ліст ад сябра Рады арганізацыі архіепіскапа Святаслава Логіна, у якім ён віншуе кіраўніцтва і сяброў Рады Згуртавання са святам Уздзвіжання ды з 25-годдзем дзейнасці "Бацькаўшчыны", а таксама піша пра сваю спробу наведаць Беларусь. Мы змяшчалі на нашым сайце інфармацыю пра тое, што айцу Святаславу забаранілі ўезд у краіну.

Вось што ён сам піша пра гэта.

"У канцы ліпеня – жніўні 2015 г. я хацеў наведаць Беларусь – сваякоў у вёсцы майго дзеда на Наваградчыне, вернікаў БАПЦ у Мінску, ЗБС "Бацькаўшчына" і многія іншыя месцы. Але 31 ліпеня пры ўездзе ў Беларусь з боку Украіны ў Гомельскай вобласці (памежны пункт "Новая Гута") я быў затрыманы, дзе было аб'яўлена, што мне забаронены ўезд у Рэспубліку Беларусь і пастаўлена ў пашпарт пячатка "УЕЗД ЗАБАРОНЕНЫ". Прычыны Беларуская памежнае служба не ведае (гэта рашэнне прыняў КДБ РБ і паставіў у камп'ютар).

Таму са святарамі БАПЦ і нашымі вернікамі ў Беларусі мы спаткаліся ва Украіне, дзе праводзілі Набажэнствы. Тамака сустракаліся з беларусамі новае хвалі эміграцыі, якіх цяпер шмат прыехала ва Украіну.

Амаль месяц, як я павярнуўся на Амерыканскі кантынент, дзе праводжу Набажэнствы (Нью-Ёрк, Таронта...)".

У Нью-Ёрку айцец Святаслаў мае намер звярнуцца ў беларускае консульства, каб высветліць прычыны забароны ўезду і зняць гэтую забарону. На яго думку, яна можа быць звязаная "з расійска-ўкраінскай вайной, бо вернікі Парафіяў БАПЦ збіраюць дапамогу Украінскай Арміі; з палітыкай Беларускага Экзархата РПЦ, які цяпер ачольвае яры расійскі шавініст; з уплывам Расіі на тое, каго не ўпускаць у Беларусь паводле папярэдніх двух пунктаў".

Мы публікуем тэкст пратэсту ў сувязі з забаронай уезду ў Беларусь айца Святаслава.

**ПРАТЭСТ**
**супраць забароны ўезду на Беларусь кіраўніку Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы**
**31 ліпеня 2015 года**

Парафіяльная Рада Кафедральнага Сабору Св. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (БАПЦ) выказвае пратэст супроць дзеянняў беларускіх уладаў, па волі якіх не быў дапушчаны наведаць Беларусь па духоўных справах Яго Міласць Найпачаснейшы Святаслаў Архіяпіскап Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (Вячаслаў Логін).

Архіяпіскап Святаслаў, як Першы Ярарх, кіруе Беларускаю Аўтакефальнаю Праваслаўнаю Царквою і апякуецца беларускімі праваслаўнымі вернікамі ва ўсім беларускім замежжы і таксама прыходамі БАПЦ у Беларусі.

Ягоныя візіты на Бацькаўшчыну заўсёды чакаюцца вернікамі і даюць неабходную ў наш цяжкі час духоўную падтрымку тым, хто хоча быць пад апекаю менавіта беларускай царквы, а не царкоўных структураў, падпарадкаваных Маскоўскаму патрыярхату. І гэта ёсць законнае права кожнага грамадзяніна Беларусі – належаць да той царквы, да якой хоча і дзе адчувае сябе больш свабодна.

У Беларусі царква аддзелена ад дзяржавы – на якой падставе тады чыняцца перашкоды з боку дзяржавы, каб вернікі БАПЦ не мелі магчымасці сустракацца са сваім Ярархам?

*Расціслаў Гарошка*

*Старшыня Парафіяльнае Рады Сабору Св. Кірылы Тураўскага БАПЦ у Нью-Ёрку*

## КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА КАСТРЫЧНІК 2015 ГОДА

2 кастрычніка – 40 гадоў таму памёр Тамаш Падзява (1906–1975), каталіцкі святар-марыянін, філосаф, тэолаг, публіцыст, рэлігійна-культурны дзеяч, вязень савецкіх канцлагераў. Пахаваны на могілках Сен-Панкрац у Лондане (Вялікабрытанія).

4 кастрычніка – 125 гадоў таму нарадзіўся Язэп Гладкі (1890–1972), грамадскі дзеяч, фалькларыст, этнограф, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

7 кастрычніка – 115 гадоў таму, у 1900-м, у Жэневе (Швейцарыя) памёр Уладзіслаў Малахоўскі, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг. Нарадзіўся ў маёнт. Маце, цяпер Кобрынскі р-н (1827 г. ці каля 1830 г.).

12 кастрычніка – 90 гадоў таму, у 1925-м, у Берліне (Нямеччына) пачалася Другая ўсебеларуская канферэнцыя (доўжылася да 16 кастрычніка), на якой была прынятая заява аб роспуску Рады і Урада Беларускай Народнай Рэспублікі.

18 кастрычніка – 55 гадоў таму ў Марыупалі (Украіна) памёр Іван Бялькевіч (1883–1960), мовазнавец, педагог, аўтар слоўнікаў.

18 кастрычніка – 20 гадоў таму памёр Янка Макарэвіч (1909–1995), дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі, паэт. Пахаваны на беларуска-ўкраінскай частцы могілак Роквуд у Сіднеі (Аўстралія).

20 кастрычніка – 130 гадоў таму ў Вільні нарадзіўся Алесь Бурбіс (1885–1922), дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху.

21 кастрычніка – 80 гадоў таму ў г.п. Зэльве нарадзіўся Юрка Геніюш (1935–1985), пісьменнік і публіцыст.

22 кастрычніка – 95 гадоў таму ў Вільні нарадзіўся Юрка Луцкевіч (1920–1992), вайсковец, настаўнік, сябар Беларускай Незалежніцкай Партыі, вязень савецкіх канцлагераў.

24 кастрычніка – 220 гадоў таму, у 1795-м, адбыўся трэці падзел Рэчы Паспалітай.

26 кастрычніка – 130 гадоў таму ў Харкаве (Украіна) памёр Міхаіл Урончанка (1801–1885), геадэзіст-тапограф, географ, перакладчык.

27 кастрычніка – 25 гадоў таму, у 1990-м, у Гайнаўцы (Польшча) у новым будынку адкрыўся Беларускі этнаграфічны музей.

30 кастрычніка – 125 гадоў таму ў мяст. Астрына (цяпер Шчучынскі р-н) нарадзіўся Міхаіл Урбановіч (1890–1973), культурны дзеяч, педагог, каталіцкі святар у ЗША.

31 кастрычніка – 105 гадоў таму ў Вільні нарадзіўся Леанід Галяк (1910–1980), юрыст, журналіст, грамадскі дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**Беларусы ў свеце**
№ 9 (161), верасень 2015

Інфармацыйны бюлетэнь МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі. Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – А. Башарымава. Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская. Наклад 250 асобнікаў.

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906, г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com

тэл./факс (+375 17) 200-70-27